


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 41 (1076) БЕЛАСТОК 10 КАСТРЫЧНІКА 1976 г. ЦАНА 60 гр.

Працоўны і жыццёвы шлях **Веры Рышчук** — настаўніцы беларускай мовы ў Бельскім беларускім ліцэі — вельмі паказальны для большасці педагогаў з нашага асяроддзя.

Ці чулыя адносіны першай настаўніцы Т. Кудрыцкай, ці ўплыў вершаў і апавяданняў аб высакароднай працы выхавацельніцы самых маленькіх, а можа пад уплывам аднаго і другога вясковае дзяўчо са Шчытоў, што каля Орлі, пасля заканчэння пачатковай школы падалося ў Педагагічны ліцэй для выхавацельніц дзіцячых садоў у Бельску. Тут колішняе дзіцячае жаданне перарадзілася ў трывалае і мэтанакіраванае імкненне стаць педагогам.

Пасля гадавога кваліфікацыйнага педагагічнага курса ў Элку В. Рышчук уступае на свой працавіты настаўніцкі шлях. Вядзе ён цераз вясковыя школкі ў Сацах і Плянтах на Гайнаўшчыне, Пасынках на Бельшчыне, надзвычай цяжкую і адказную працу ў спецыяльных класах у пачатковай школе № 2

##  УЛЮБЁНАСЦЮ ДА РОДНАЙ МОВЫ

у Бельску, светлыя дні і гады ў славутай бельскай беларускай пачатковай школе № 3 і вось ужо чацвёрты год — у Бельскім беларускім ліцэі.

Нехта заўважыць з папрокам: „І нашто гэтакае валэнданне? Ці не прасцей было адразу закончыць вышэйшую школу і адразу стаць за прафесарскім сталом у ліцэі?“ Не, напэўна не! Праца ў пачатковых школах у самых разнастайных асяроддзях дала ёй тое, чаго не можа даць ніводная вышэйшая школа — самае каштоўнае ў педагогіцы, а іменна: усебаковы багаты вопыт працы з маладым пакаленнем і вёскі і горада. Яго В. Рышчук скрупулёзна канфрантавала і канфрантуе з педагагічнай тэорыяй. Яна належыць якраз да тых настаўнікаў, якія няспынна паглыбляюць свае веды і павышаюць кваліфікацыі. Закончыла беларускую філалогію ў Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку, ужо тры разы ўдзельнічала ў курсах настаўнікаў беларускай мовы ў Мінску, а цяпер яна — студэнтка чацвёртага курса беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Вось так іменна фармуецца высокакваліфікаваны педагог, спецыяліст па роднай мове!

— Побач са шматлікімі іншымі важнымі дзялянкамі працы з вучнямі, я многа ўвагі адводзіла раней і адводжу цяпер справе ўвядзення ў беларускую мову тых, хто яе не вывучаў, або нават і не чуў, — расказвае В. Рышчук. — Дзеля гэтага я прадумвала дэталёва кожнае сваё слова, кожнае практыкаванне ў класе ці хатняе заданне, ставячы пры гэтым дзве асноўныя мэты: першая — зацікавіць беларускай мовай і прывіць замілаванне да яе; другая — навучыць, як карыстацца беларускай мовай, узбагаціць актыўны слоўнік вучня, а таксама пазнаёміць з багатай літаратурай і культурай нашага народа. Ці прыходзіла мне гэта лёгка? О, не! У пачатковай школе даводзілася гэта рабіць адначасова з працай з усім класам, які ўжо валодаў пэўнай сумай ведаў па роднай мове. Таму з такімі вучнямі я працавала індывідуальна, паволі, цярпліва і, скажу шчыра, з добрымі вынікамі. Самым жа вялікім для мяне задавальненнем было, калі такі вучань глыбока палюбіў беларускую мову і пайшоў далей вучыцца ў беларускі ліцэй. А такіх было ў мяне шмат. А вось у ліцэі мы штогод арганізоўваем для вучняў, якія не ведаюць беларускай мовы, спецыяльны паўгадовы ўводны курс у часе іх вучобы ў першым класе. Пачынаю, звычайна, з самых простых сітуацыйных гутарак на



*Ля Дома настаўніка ў Гайнаўцы. Выстаўка прац мастакоў сёлетняга гайнаўскага разбярскага пленеру.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

беларускай мове. Выкарыстоўваю да іх спецыяльныя карцінкі, а нават арганізую інсцэнізацыю ў класе. Вельмі добрым дапаможнікам з'яўляюцца для нас пласцінкі з запісамі выказванняў пісьменнікаў і дзеячоў культуры Савецкай Беларусі. Затым я прыступаю да беларускага алфавіта, чытання і пісання. І тут таксама адводжу шмат месца жываму беларускаму слову: чытанню апавяданняў, артыкулаў і вершаў не толькі ў маім выкананні, але і аднакласнікаў маіх навучэнцаў, што добра валодаюць роднай мовай. І вось так, крок за крокам, мы ўваходзім у багаты свет



нашай беларускай мовы і культуры, каб праз чатыры працавітыя гады вучобы ў ліцэі былога ўдзельніка ўводнага курса з-пад яго пяра выйшла сачыненне на беларускай мове на атэстат сталасці на 6-10 старонках вялікага фармату, з выказанымі ў ім глыбокімі ведамі па беларускай літаратуры і без адзінай памылкі. А гэта бывае надта часта...

Шмат цікавага расказвае В. Рышчук і аб выкарыстанні ў навучанні роднай мове месячніка „Беларусь“, тыднёвіка „Ніва“, часопісаў „Маладосць“ і „Полымя“. Усё гэта толькі пацвярджае тое, што яна выкарыстоўвае ўсе даступныя настаўніку дапаможнікі дзеля прывівання моладзі ўлюбёнасці і глыбокіх ведаў па роднай беларускай мове.

**М. Гайдук**
Фота аўтара

# МЭБЛЯ З СУПРАСЛІ

Раней на гэтым месцы была тэкстыльная фабрыка, чаго апошнімі сведкамі з'яўляюцца комін вышынёй у сорак два з паловай метры і воданапорная вежа. Месца ранейшай фабрыкі заняў кааператыў па вытворчасці мэблі, які ў мінулым годзе святкаваў дваццаць пятую гадавіну свайго існавання. Пачаткова быў ён невялікі. Але амаль кожны год прыходзіў з нейкім прыбыткам і дзякуючы гэтаму мэбля цяпер родзіцца ў вялікіх прасторных залах, абсталяваных новымі машынамі. 1975 год таксама не прыйшоў з пустымі рукамі. Былі аддадзены ў карыстанне, пабудаваныя коштам двух мільёнаў злотых, сацыяльна-бытавыя памяшканні.

У кааператыве, дырэктарам якога ад 1969 года з'яўляецца Зыгмунт Зэмло, працуюць на дзве змены 204 працаўнікі, з чаго сорак працэнтаў гэта жанчыны. Што ж гэта за людзі? Пераважна маладыя ў поўнай вытворчай сіле. Сярэдні ўзрост у межах 30-32 год. Калі гаварыць аб іх падрыхтоўцы, то выглядае яна па-рознаму, так як па-рознаму выглядае вытворчасць, якая ідзе тут паточна. Хто клеіць, хто малюе, хто наводзіць паліту́ру, хто яшчэ нешта іншае робіць. Пакуль дрэва заменіцца ў стол, павінна яно прайсці вялікі шлях. Таму, зразумела, і падрыхтоўка павінна быць розная. Найбольш працаўнікоў закончыла розныя прафесіянальныя школы. Але ёсць і такія, якія прывучаюцца да працы тут. Дырэкцыя стварае для гэтага спрыяльныя ўмовы. Арганізуе курсы на званне чалядніка або майстра.

А цяпер пра галоўнае. Што ж за мэбля тут нараджаецца? Пераважна сталы. Не будзем доўга над гэтым затрымоўвацца, бо кожны даскакала ведае, як выглядае стол. Але нельга прамаўчаць пра стол-лаву даволі танны (1800 злотых) і надта зручны ў карыстанні. На першы позірк гэта зусім невысокі маленькі столічак. Але хопіць узяць яго толькі за верх і падняць ды рассунуць у бакі, як стаіць ужо звычайны, высокі стол. Добра! Апрача сталоў, робяць тут бібліятэчкі для кніг. Можна таксама тут нешта і заказаць. Прыкладна, стэлажы ці шафы. Праўда паслугі гэтыя разгорнуты не вельмі шырока, але ўсё ж такі два мільёны злотых, якія прызначаюць на гэта ў год, гэта не так ужо і мала.

Вернемся да вырабаў, якія з'яўляюцца пладамі паточнай вытворчасці. З Супраслі ідуць яны па цэлай краіне і карыстаюцца вялікай папулярнасцю з увагі на сваю якасць і невысокую цану.

— Што плануеце на будучыню? Можа прадбачаны нейкія змены ў вытворчасці? — звяртаемся да дырэктара.

— І так і не. Пры сталах застанемся далей, але частку з іх, згодна з дагаворам, будзем дадаваць да мэблевага камплекта „Беласток“. І так на наступны год падпісана запатрабаванне на 25 тысяч штук. Апрача гэтага заказалі ў нас 20 тысяч штук звычайных сталоў.

Гэта толькі тое, што робяць згодна з дагаворам. Апрача таго, ідзе і штодзённая вытворчасць. І так у год, калі возьмем усё разам, прадукцыйныя залы пакідае 60 тысяч штук рознай мэблі. Колькі ж на гэта трэба матэрыялу! Кааператыў па вытворчасці мэблі ў Супраслі абяспечваецца ім па-рознаму. Часткова бярэ ў мясцовым тартаку, часткова карыстае з дзяржаўных надзелаў, а часткова з імпарту з Савецкага Саюза. Праблемы ёсць. Часта адчуваецца недахоп матэрыялаў, і гэта адбіваецца на гадавых планах, а яны тут вялікія (каля пяцідзесяці мільёнаў).

— А як з працаўнікамі? — зноў звяртаемся да дырэктара.

(Працяг на стар. 2)




* * *

*Пажыць да дна — і кропка, годзе.*
*У чым жа справа?*
*Усё запознена прыходзіць:*
*Набытак, слава.*

*Той славы з макавае зерне,*
*На грош набытку.*
*А маладосць ужо не вернеш,*
*Хіба што ў сшытку,*

*Дзе ты пракладваеш сцежкі*
*Зноў у былое.*
*А на цябе глядзіць з насмешкай*
*Жыццё жывое.*

*А што яму да ўспамінаў,*
*Да спавяданняў,*
*Што праляцелі недзе міма*
*Спадзяванні.*

*Ты добра жыў.*
*Чаго смуткуеш?*
*Не вер жэнь-шэню.*
*Жыццё працуе і святкуе,*
*І моладзь жэніць.*

*Ляціць яно па зорных трасах*
*І зырка свеціць.*
*Мы непрыгодны ў суддзі часу:*
*Яго мы дзеці.*

*Рук не шкадуючы, рабілі,*
*Жылі як людзі.*
*І не прасі, каб не забылі,*
*Лепш без ілюзій.*

*Глядзі без зайздрасці, як дораць*
*Дзяўчатам кветкі.*
*Спраў маладым няма да гора...*
*Ты сам быў гэткі.*

**Пімен Панчанка**




**Незвычайная біяграфія звычайнага чалавека ● Рэпартаж з Вулькі Нурэцкай ● Беларускія трактары ● Інтэрв'ю ў прысутнасці аўтамата ● Беларускі фальклор у „Песнях“ К. У. Вуйціцкага ● Перацёсы ● Як знайсці спосаб на „спосаб“ ● Весткі з Супраслі, Галадоў, Гайнаўкі, Белавежы, Дубіч Царкоўных, Вітава, Бельска, Кнаразоў, Крывяціч ● Калі сніцца бальніца ● Песня „Rysunek na szkle”.**

 

# Славянскае золата

Адкрытая 16 верасня гэтага года ў акруговым музеі ў Беластоку выстаўка **„Бурштын — выкапневая смала“** з'яўляецца значнай падзеяй у музейнай справе нашага рэгіёна. А гэта таму, што, па-першае, ніколі ў Беластоку не дэманстравалася выстаўка, спецыяльна прысвечаная гэтаму надта цікаваму выкапню, па-другое, на выстаўцы паказана каля 500 экспанатаў, якія прадстаўляюць самыя разнастайныя постаці і формы гэтага мінералу, выбраныя сярод амаль 20 тысяч яго экзэмпляраў, што захоўваюцца ў фондах варшаўскага Музея Зямлі Польскай акадэміі навук. Пры тым варта прыгадаць цікаўнасць: самы вялікі кавалак бурштыну ў Музеі Зямлі важыць 2,05 кілаграма, а самы вялікі на Зямлі бурштын важыць звыш 9 кг і знаходзіцца ў зборах Берлінскага універсітэта імя А. Гумбальта і быў знойдзены на тэрыторыі Быдгашскага ваяводства ў Польшчы.

Дзякуючы вялікаму ўкладу працы д-р Касмоўскай-Цэрановіч — навуковага працаўніка Музея Зямлі, адначасова камісара і аўтара сцэнарыя выстаўкі — бурштын або інакш „славянскае золата“ заззяў на выставачных стэндах усёй сваёй красою, у чым немалая заслуга таксама мастакоў — афарміцеляў выстаўкі: З. і Т. Кабылкаў, Р. Куліцкай і П. Межаеўскага.

Заахвочваючы ўсіх, асабліва ж школьную моладзь, наведаць гэтую надта каштоўную для пазнання таямніц і багаццяў нашай зямлі выстаўку, не магу ўстрымацца, каб з яе нагоды не паразважаць аб бурштыне з басейна нашай ракі Нарвы і яго ролі ў гісторыі гэтай зямлі.

Вядома, самымі багатымі бурштынам землямі ў Еўропе з'яўляюцца ўзбярэжжа Балтыйскага мора, асабліва паўастравы — Самбія і Ютландыя, і вялікія прасторы аж да Уральскіх гораў. Побач з гэтымі месцазнаходжаннямі бурштыну, значная яго колькасць спрадвечна была вядома ў сярэднім цячэнні ракі Нарвы, асабліва на яе правым беразе, а таксама ў басейнах рэчак, што ўпадаюць у яе з правага боку. Нараўскі бурштын быў здаўна вядомы людзям. Яго здабывалі не толькі мясцовыя жыхары, ён трапляў таксама ў рукі купцоў, а за іх пасрэдніцтвам вандраваў у далёкую Грэцыю і Рым, дзе з яго выраблялі дарагія, па цане роўныя золату, упрыгожанні, амулеты, прыносячыя шчасце, духмянае кадзідла, лякарствы. Варта прыгадаць, што ў I стагоддзі нашай эры ў Рыме маленькая фігурка, вырэзбленая з бурштыну, каштавала больш, чым нявольнік. Таму грэчаскія і рымскія землепраходцы і купцы, перамагаючы боязь, падаваліся ў „варварскія“ землі ў басейн Віслы, Нёмана і Дняпра, каб шляхам абмену з тамашнімі жыхарамі здабываць каштоўнае „золата поўначы“ — бурштын. Праўдападобна, самбійскі і нараўскі бурштын пачаў вандраваць у старажытную Грэцыю яшчэ ў V стагоддзі да нашай эры. Іменна дзякуючы гэтаму ў славутую „Гісторыю“ Герадота трапляе даволі абшырнае апісанне племені неўраў, якія паводле меркаванняў вучоных нашых часоў, насялялі землі паміж рэкамі Нурцом і Нарвай і разам з суседнім з імі племем будзінаў склалі праславянскае насельніцтва. Прыцягальная сіла нараўскага бурштыну была прычынай і таго, што ўздоўж ракі Нарвы, ад яе сярэдняга цячэння ўверх, г.зн. цераз цяперашнюю Белавежскую пушчу, пралягаў адзін з рухлівых бурштыновых шляхоў, які вёў да чарнаморскага ўзбярэжжа. Наколькі гэты шлях быў вядомы і пратораны, сведчыць факт, што па ім з пабярэжжа Балтыйскага мора на бераг Чорнага мора павандравалі ў I-II стагоддзях нашай эры ваяўнічыя готы. Потым па гэтым жа шляху-гасцінцы ішлі іншыя вандраўнікі, пакідаючы тут рымскія манеты, а нават посуд, які між іншым быў знойдзены ў „княжацкіх“ курганах у Растолтах.

Цанілі бурштын не толькі старажытныя грэкі і рымляне. Аздобы з яго ахвотна насілі таксама і мясцовыя прыгажуні. У сярэднявеччы папулярнасць бурштынавых вырабаў сярод арыстакратыі крыху зменшылася на карысць золата, серабра і шляхетных каменняў. Аднак нязменна цаніў яго мастацкую каштоўнасць просты народ, асабліва сяляне з пабярэжжа ракі Нарвы.

У наш час вартасць бурштыну як матэрыялу для ювелірных вырабаў узрастае з кожным годам. Ён знаходзіць таксама прымяненне ў нарыхтоўцы асабліва каштоўных фарбаў і лакаў і нават пры пабудове міжпланетных караблёў-ракетаў.

Выстаўка будзе адкрыта да 15 лістапада бягучага года.

**Ігнат Снарскі**
Фота аўтара



*Фрагмент выстаўкі „Бурштын — выкапневая смала“. Стэнд з ювелірнымі вырабамі з бурштыну, а таксама народныя прылады з пабярэжжа ракі Нарвы, якімі яго тачылі і шліфавалі.*

## НА СТРАЖЫ ЛАДУ І СПАКОЮ



Людзі ў цёмна-блакітных мундзірах, наша Грамадзянская міліцыя...

Так ужо ёсць у жыцці: аб іх мы памятаем часцей, калі трапляем у бяду, і радзей звяртаемся да іх у радасці і шчасці. Але яны заўсёды і ўсюды прысутнічаюць у нашай свядомасці як тая збаўчая моц справядлівасці, што заўсёды знаходзіцца на стражы твайго і майго спакойнага жыцця, непарушнасці нашай агульнай і прыватнай маёмасці, грамадскага ладу і парадку ва ўсёй краіне. І ці толькі гэта?

Малодшы харунжы **Уладзіслаў Аўштэль** служыць у органах міліцыі звыш васьмі год, у тым ліку шэсць год з'яўляецца камендантам пастарунка МО ў Васількове. Праца не належыць да спакойных, вядома: гміна вялікая, улетку вельмі рухлівая, бо месца адпачынку беласточчан, узімку таксама не сонная, бо прыгарадная. Штодзень пераваліваюцца па гэтым абшары тысячы чалавек на работу ў Беласток і дамоў назад, а рух людзей заўсёды спрыяе розным парушэнням ладу і парадку, стварае больш спрыяльныя ўмовы для злачынства. І ўсё ж васількоўская гміна належыць да самых спакойных на тэрыторыі ўсяго нашага ваяводства, а гэта знак таго, што камендант У. Аўштэль і яго падуладныя старанна выконваюць свае абавязкі.

Тыя нямногія вольныя ад адказных службовых абавязкаў хвіліны, што астаюцца яму для так званага прыватнага жыцця, У. Аўштэль без рэшты прысвячае актыўнай грамадскай дзейнасці. А дзейнасць гэтая ў яго шматпланавая. Ён — член Экзекутывы гарадскога і гміннага камітэта ПАРП, старшыня камітэта Фронту адзінства народу, радны гарадской і гміннай рады нарадовай і старшыня клуба радных ад ПАРП, член гарадскога і гміннага праўлення Саюза сацыялістычнай польскай моладзі і член Ваяводскага праўлення ССПМ у Беластоку. І за кожным з гэтых абавязкаў — вялікі ўклад працы. Для У. Аўштэля стала жыццёвай неабходнасцю быць увесь час у гушчы жыцця, удзельнічаць у ім з поўным заангажаваннем, дапамагаць у вырашэнні ўсіх важных і часам надта складаных спраў свайго асяроддзя. І ў гэтым, бадай, адна з прадпасылак той вялікай пашаны, з якой адносяцца да яго людзі.

Складаючы малодшаму харунжаму Уладзіславу Аўштэлю сардэчныя віншаванні з нагоды свята працаўнікоў Грамадзянскай міліцыі і Публічнай бяспекі, выказваем вялікую ўдзячнасць усім высакародным людзям у цёмна-блакітных мундзірах.

**І. Снарскі**

МІНІ-ІНТЭРВ'Ю СА ЗДЫМКАМ

## У пчаляра і паляўнічага

Гэтую размову мне давялося правесці ў пасецы, дзе мой размоўца — **Мікалай Казімерук** з вёскі Сухавольцы гм. Кляшчэлі, — разварушыўшы раёў шэсць ці сем, браўся якраз за догляд чарговага вулля. А я... у звычайнай кашуліне ды з адкрытым тварам. Вакол кружылася плойма разазлаваных пчолаў, і ад іхняга гнеўнага зыку ў мяне не то, што ногі ад страху ўгіналіся, але лекацела і абліваласся халодным потам усё цела. Ды чаго не зробіць журналіст для свайго чытача і свае любімай газеты?!

— Вы — малады, нежанаты чалавек, адкуль жа ў вас улюбёнасць да пчалярства?

— Крыху па бацьку, ён займаўся пчалярствам, — адказвае М. Казімерук, — але найбольш з уласнага зацікаўлення гэтым надта прыемным і карысным заняткам. Калі глядзіш на працавітасць пчолаў, іх старанлівасць і клопаты пра агульнае дабро, дык і самому хочацца працаваць яшчэ больш актыўна. Затым — цішыня, спакой, ніякіх нерваў. Для належнага вядзення пасекі даводзіцца многа чытаць спецыяльнай літаратуры па пчалаводству, а таксама папрацаваць у сваёй жа сталярні над падрыхтоўкай вулляў, бо так і танней і лепш. Пчалярствам займаюся ўжо пяць год, і скажу вам — гэта чыстая прыемнасць і задавальненне.

— Вы працуеце толькі на гаспадарцы?

— Не, гаспадарка і пчалярства — гэта мой дадатковы занятак. Я — абсальвент эканамічнага ліцэя ў Беластоку і працую па сваёй спецыяльнасці ў СКР-ы ў Кляшчэлях.

— Ці пчалярства — гэта ваша адзінае хобі?

— Яшчэ люблю паляўніцтва, і найбольшым маім здабыткам дагэтуль з'яўляецца 100-кілаграмны дзік, якога я застрэліў ва ўрочышчы Пухава.

— А што ў пчалярстве?

— Цяпер мая пасека складаецца з 70 вулляў, у тым ліку з селекцыйных 15 краінскіх раёў, 15 — каўказскіх і 40 краёвых. Апошнія два гады наогул былі даволі шчодрыя для пчолаў, у апошнім годзе асабліва месяц ліпень даў добры збор. Зразумела, маю на ўвазе тыя пасекі, гаспадары якіх паклапаціліся пра адпаведную падрыхтоўку сямей да ўзяткаў. Сёлета ў мяне кожная сям'я дала ў сярэднім па 30 кілаграмаў мёду. Няцяжка палічыць, колькі даходу прынесла пасека, калі за адзін кілаграм мёду „Вітаміна“ плоціць па 60 злотых.

Размаўляў і фатаграфаваў
**І. Снарскі**



## АД РОДНЫХ НІЎ

### Юшкаў Груд

*Едзеш ў той бок на Ялоўку —*
*ўзгорак, вёска Юшкаў Груд.*
*Прылягла з бакоў смалоўка,*
*чаго трэба знойдзеш тут.*

*Глянеш ўправа — кулка, кузня,*
*кавалі ў кавадла б'юць.*
*А налева — хлопцы дружна*
*пры спулдзельні піва п'юць.*

*Дзе найвышэй — агароджа,*
*цэркаўка у ёй стаіць*
*і навокал так прыгожа*
*грудок цэлы весяліць.*

*І раміза ёсць у вёсцы,*
*як аб ёй мне не сказаць;*
*пажарнікі добры хлопцы,*
*гонар трэба ім аддаць.*

*На млячарню наракаюць*
*(яно так ужо здаўна),*
*зато школу паважаюць —*
*справядлівая яна.*

*Дзе купляць усё — спулдзельня,*
*з ёю жыць нам не бяда.*
*Пошта — гутарка аддзельна,*
*бо працуе на медаль.*

*У ёй газета без гавору,*
*і пісьмо не прападзе,*
*яно заўша ў час, у пору*
*табе ў рукі пападзе.*

*І дантыстка у нас добра,*
*больш такой нідзе не ўзяць.*
*А ці будзе яна доўга?*
*Кажуць, хоча уцякаць.*

*Ужо спулдзельня для здароўя*
*мусіць хворая сама,*
*Дахтароў па двое мела,*
*цяпер жаднага няма.*

*Хварэць заўша тут не можна,*
*бы калі, бы ў які час,*
*толькі серада й субота*
*вызначаюцца для нас.*

**А. Леўшук,**
Ціванюкі



 

